


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**



**Электронны адрас:** *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*



**№ 10(668)**
**Кастрычнік 2021 г.**


# Сьвяткаваньне 30-годзьдзя аднаўленьня незалежнасьці Беларусі

У нядзелю 29 жніўня 2021 году ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшло сьвяткаваньне адной з найважнейшых падзеяў у найноўшай гісторы Беларусі – аднаўленьня незалежнасьці 25 жніўня 1991 году. У гэты дзень 30 год таму была нададзеная канстытуцыйная сіла Пастанове й Закону Вярхоўнага Савету БССР аб Дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Гэта стала фактычнай перадумовай здабыцьця поўнага сувэрэнітэту Беларусі і прызнаньня беларускай Незалежнасьці сусьветнай супольнасьцю. Імпрэза ўшанаваньня гэтай слаўнай гадавіны была падрыхтаваная сумесна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня".

Напачатку прысутныя засьпявалі разам беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" на словы Макара Краўцова. Затым старшыня БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка адкрыла імпрэзу і павіншавала ўсіх прысутных з нацыянальным сьвятам, датай, што стаіць у шэрагу такіх нацыянальных сьвятаў як 25 Сакавіка – Дзень Волі: Абвешчаньне Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, і 27 ліпеня – Дзень прыняцьця Закону аб Дзяржаўным Сувэрэнітэце Беларусі. У гэты дзень трэба ўзгадаць усіх, хто марыў аб Незалежнасьці й змагаўся за яе, і тых хто аддалі за яе свае жыцьці. Сп-ня Федарэнка заклікала прысутных падзяліцца сваімі ўспамінамі пра тую значную дату і падкрэсьліла, што часы пераклікаюцца, і ўсе пакаленьні сьведамых беларусаў зрабілі свой унёсак дзеля таго, каб Бацькаўшчына здабыла Незалежнасьць. І гэта ёсьць зарукаю таго, што Незалежнасьць напоўніцца сэнсам і зьместам, бо сёнешняя Рэспубліка Беларусь, нажаль, гэта паняволеная краіна з абмежаваным сувэрэнітэтам.

Сп-ня Натальля Федарэнка таксама адзначыла, што БАЗА ўзнаўляе свае рэгулярныя сходы і аднаўляе грамадзкую дзейнасьць. Затым яна як вядучая дала слова для прывітаньня старшыні




Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталю Зайку.

Сп. Зайка павіншаваў прысутных з важным нацыянальным сьвятам і падкрэсьліў, што падзеі 30-гадовай даўніны застаюцца для нас прыкладам дзеяньняў у неспрыяльнай сытуацыі ў варожым атачэньні, ва ўмовах дэнацыяналізацыі й атамізацыі грамадзтва. Прамоўца даў кароткі агляд барацьбы за Незалежнасьць Беларусі, пачынаючы ад першага Беларускага Адраджэньня пачатку 20 ст., абвешчаньня БНР, беларусізацыі ў БССР і нацыянальнага змаганьня ў Заходняй Беларусі. Затым ён перашоў да нацыянальна-вызвольнай працы беларускіх дзеячоў пад нямецкай і пасьля пад савецкай акупацыяй. Уступ Беларусі ў ААН і часовая саступка і запаволеньне дэнацыяналізацыі зьмяніліся падвышэньнем тэмпаў русыфікацыі й асыміляцыі беларусаў у савецкае грамадзтва, і ў выніку Беларусь прыйшла да часоў перабудовы ў другой палове 1980-х гадоў адзінай рэспублікай (поруч хіба што з Казахстанам), дзе культура і мова тытульнай нацыі была ў найбольшым заняпадзе. І таму яшчэ большай і значнай ёсьць заслуга тых новапаўстаўшых адраджэнскіх сілаў, якія здолелі падняць у грамадзтве пытаньні аб нацыянальнай культуры і мове, навесьці грамадзкую думку на рэйкі руху да здабыцьця нацыянальнай незалежнасьці. І першымі ў гэтым слаўным шэрагу ёсьць Беларускі Народны Фронт і ягоны лідар сп. Зянон Пазьняк.

Пасьля наўдалай спробы дзяржаўнага перакулу, якую правялі артадаксальныя камуністычныя сілы ў Маскве, адхіліўшы ад улады прэзыдэнта СССР Гарбачова, пачаўся каляпс усёй дзяржаўнай і партыйнай сыстэмы 74-гадовага камуністычнага панаваньня. У выніку Беларусь, а таксама іншыя 14 былых савецкіх рэспублікаў зрабіліся незалежнымі дзяржавамі. У той час у Бела-

*заканчэньне на бачыне 3*



# Аб нікчэмнасьці маскоўскіх пагадненьняў і злачыннай палітыцы Лукашэнкі

9 верасьня адбыўся чарговы этап нацыянальнай здрады дзяржаве і народу Беларусі з боку ўзурпатара Лукашэнкі. У Маскве ён узгадніў з Пуціным дакумэнты ("дарожныя карты"), якія на справе зьяўляюцца плянам расьцягнутай акупацыі, эканамічнага і палітычнага паглынаньня Беларусі Расеяй. 4-га лістапада Пуцін і Лукашэнка плянуюць афіцыйна зацьвердзіць гэтыя паперы і замацаваць іх праз фіктыўныя органы так званай "саюзнай дзяржавы".

Лукашэнка ня ёсьць выбраны народам. Усе выбары, і асабліва апошнія, у жніўні 2020 году, былі сфальсыфікаваныя. Ягонае аўтарытарнае праўленьне ўзьнікла пры палітычнай дапамозе Масквы ў лістападзе 1996 года ў выніку дзяржаўнага перавароту і адкіданьня законнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Лукашэнка не зьяўляецца легітымнай фігурай улады, ён ня мае ніякага права рэпрэзэнтаваць краіну і тым больш падпісваць лёсавызначальныя для краіны дакумэнты. Гэта зьяўляецца злачынствам супраць дзяржавы.

Чарговае ўзгадненьне антыбеларускіх дакумэнтаў, якія пагражаюць сувэрэнітэту Беларусі, супадае з увядзеньнем расейскіх войскаў у Беларусь пад выглядам стварэньня вайсковых вучэбных цэнтраў (у рэальнасьці – ваенных базаў), што зьяўляецца здрадай і дзяржаўным злачынствам.

Факт узгадненьня антыбеларускіх дакумэнтаў (28 "дарожных картаў") адбыўся ў абставінах маштабных рэпрэсіяў у Беларусі, у абставінах поўнага беззаконьня і гібрыднай вайны спраць краінаў Эўразьвязу праз арганізацыю транзіту нелегальных мігрантаў з Блізкага Ўсходу і Афрыкі на межы Польшчы, Латвіі і Летувы.

Дакумэнты, узгодненыя нелегітымнай асобай Лукашэнкі 9-га верасьня 2021 году ў Маскве і падрыхтаваныя для падпісаньня, ёсьць юрыдычна нікчэмныя, а дзеяньні палітычна злачынныя, якія падпадаюць пад крымінальную адказнасьць.

У гэтых абставінах трэба, каб міжнародная дэмакратычная супольнасьць успрыняла інтэграцыйны працэс Расеі і Беларусі ("саюзную дзяржаву") як элемэнт гібрыднай акупацыі Расейскай Фэдэрацыяй Рэспублікі Беларусь, які ня толькі разбурае дзяржаўнасьць Рэспублікі, але становіцца пагрозаю для рэгіянальнай бясьпекі. Гэта азначае, што Саюз Беларусі і Расеі мусіць стаць аб'ектам міжнароднага ціску і непрызнаньня як суб"екта палітыкі.

У сваю чаргу, нацыянальна-дэмакратычны рух Беларусі павінен мабілізаваць усе высілкі, каб стрымаць антынацыянальныя дзеяньні Лукашэнкі і паўзучую акупацыю Беларусі Расеяй.

Мы адкідаем і не прызнаем пагадненьні, падпісаныя беларускім дыктатарам і узгодненыя ў Маскве. Мы сьведчым пра адказнасьць, якая вынікае зь дзеяньняў Лукашэнкі ды высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў, якія ўдзельнічаюць у працэсе зьнішчэньня незалежнасьці Беларусі, расплата за якія непазьбежная.

*10 верасень 2021 г.*

***Беларускі Нацыянальны Сакратарыят***

*Падпісана: Зянон Пазьняк, Юры Беленькі, Павал Усаў*

# АПАВЯШЧЭНЬНЕ

## Беларускага Нацыянальнага Сакратарыяту "Вольная Беларусь"

*14 верасень, 2021 г. г. Варшава.*

Беларуская нацыя і дзяржава ў небясьпецы. Падзеі, якія адбываюцца, пагражаюць сувэрэнітэту і нацыянальнаму існаваньню Рэспублікі Беларусь.

Працягваецца зьнішчэньне грамадзянскай супольнасьці Беларусі, усіх беларускіх арганізацыяў, праяваў беларускага нацыянальнага жыцьця. Распачаты рэпрэсіі супраць народа, створана блякада наземных і авіяцыйных сувязяў з замежжам, уводзяцца жорсткія эканамічныя санкцыі супраць Беларускай дзяржавы зь нерэальным намерам ліквідаваць уладу Лукашэнкі.

Вынішчэньне Беларусі стала вынікам сумарных дзеяньняў і рашэньняў Лукашэнкі, Пуціна і памылак замежных палітыкаў.

Цяпер мы, беларусы ў Бацькаўшчыне і ва ўсім сьвеце, мусім выратаваць сваю краіну ад зьнішчэньня.

З гэтай мэтай Беларускі Нацыянальны Сакратарыят "Вольная Беларусь" ставіць задачу падрыхтаваць і стварыць Часовы Нацыянальны Ўрад Рэспублікі Беларусь, які павінен узяць на сябе функцыю надзвычайнай улады ў час ліквідацыі рэжыму Лукашэнкі, у пэрыяд рэформаў і пераменаў.

У час падрыхтоўкі Беларускі Нацыянальны Сакратарыят "Вольная Беларусь" ажыцьцяўляе функцыі і працу Арганізацыйнага Камітэту Часовага Нацыянальнага Ўраду Рэспублікі Беларусь.

Інфармацыя аб задачах, дзеяньнях, рэформах і пазыцыі Часовага Нацыянальнага Ўраду будзе падавацца ў бюлетэнях Беларускага Нацыянальнага Сакратарыяту.

# “Бацькаўшчыну” ліквідавалі

Прысудам у грамадзянскай справе на позву Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, агалошаным судзьдзёй Рымай Філіпчык у Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь 24 верасьня, Згуртаваньне Беларусаў Сьвету “Бацькаўшчына” ліквідаванае. Згуртаваньне было створанае ў 1990 годзе, каб кансалідаваць беларусаў у краіне і па-за яе межамі дзеля разьвіцьця Беларусі. Згуртаваньне ладзіла мерапрыемствы і акцыі, скіраваныя на ўмацаваньне беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці праз выхаваньне павагі і паглыбленьне ведаў пра родную мову, культуру, гісторыю; пасьлядоўна выступала ў абарону правоў і інтарэсаў беларусаў замежжа. Менавіта дзякуючы Згуртаваньню ў 2014 годзе быў прыняты закон “Аб беларусах замежжа”, а зьезды беларусаў сьвету “Бацькаўшчыны” сталі сапраўднай агульнанацыянальнай плятформай для абмеркаваньня актуальных для Беларусі і яе замежжа пытаньняў і праблемаў.

Фармальнай прычынай для ліквідацыі стаў перанос VIII Зьезду беларусаў свету на 2022 год праз абмежаваньні, накладзеныя каранавіруснай пандэміяй, за які прагаласавала Вялікая Рада ЗБС




“Бацькаўшчына”. Рашэньне аб пераносе Зьезду прымалася пасьля кансультацыяў зь Мінюстам: якім чынам правесьці гэтую працэдуру, каб не парушыць ні заканадаўства, ні Статут. Менавіта Мінюст пацьвердзіў, што Вялікая Рада мае ўсе паўнамоцтвы прыняць такое рашэньне.

Яшчэ раней цягам пазаплянавай праверкі Згуртаваньня “Бацькаўшчына”, распачатай Мінюстам у першай дэкадзе ліпеня, арганізацыя атрымала два папярэджаньні:

– першае – за ня выкладзеную на сайт zbsb.org, але дасланую ў Мінюст справаздачу аб дзейнасьці, якую, паводле заканадаўства, пры такіх умовах разьмяшчаць на сайце і неабавязкова;

– другое – за тое, што ў пэрыяд з 14 да 22 ліпеня “Бацькаўшчына” не ліквідавала пералік устаноўленых міністэрствам парушэньняў.

Ліквідаваць тыя парушэньні было немагчыма, бо ранкам 14 ліпеня на офісе Згуртаваньня адбыўся ператрус і памяшканьне апячатаў Сьледчы камітэт. Пазьней выявілася, што ў дачыненьні да Згуртаваньня распачата справа “па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 361 КК”.

***Інфармацыйны цэнтар МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”***

---

***заканчэньне з бачыны 1***

русі ўжо існаваў авангард нацыянальна-вызвольнай барацьбы – Беларускі Народны Фронт, і шэраг партыяў, якія былі блізкія да БНФ, прадстаўлены дваццацьцю дэпутатамі ў Вярхоўным Савеце. І вось гэтая жменька патрыётаў пад кіраваньнем Зянона Пазьняка здолела кансалідаваць усе патрыятычныя сілы, скарыстаць момант і нэўтралізаваць камуністычную партыю, што мела датуль неабмежаваную ўладу. Баючыся адказнасьці за падтрымку дзяржаўнага перакулу і ГКЧП, большасьць дэпутатаў-камуністаў прагаласавала за высунутыя патрыятычнай апазыцыяй прапановы аб наданьні канстытуцыйнай сілы Закону аб Сувэрэнітэце. Гэтак сталася толькі пасьля палкіх дыскусіяў, працы па пераконаньні й ужыцьці кемкіх тактычных крокаў. І таму абсалютнай памылкай было б сьцьвярджаць, як дасюль яшчэ робіць той-сёй, што незалежнасьць звалілася на беларусаў зь неба. Без гераічнага, без пераболыпаньня, змаганьня дэпутатаў БНФ у Вярхоўным Савеце ня выключана, што камуністычная дэнацыяналізаваная большасьць паспрабавала б далучыцца да Расеі. Але падзеі 25 жніўня 1991 году паставілі кропку ў справе паднявольнай, падпарадкаванай савецкай калёніі. Беларусь сапраўды выйшла на шырокі міжнародны прасьцяг, пайшлі заявы аб прызнаньні Незалежнасьці Беларусі, неўзабаве былі замацаваныя нацыянальныя сымболі й афіцыйная назва – Рэспубліка Беларусь, сталі фармавацца нацыянальныя органы, што пераймалі розныя аспэкты сувэрэннай дзяржавы. Заява аб наданьні сілы Закону аб Сувэрэнітэце стала напаўняцца рэальным зьместам, і напрыканцы 1991 году, 25 сьнежня, Савецкі Саюз спыніў сваё існаваньне, спраўдзілася мара і мэта адраджэнсіх сілаў.


Віталь Зайка

Пасьля былі ўзьлёты й падзеньні, была трохгадовая “адліга” 1991-1994 гадоў, і затым прыйшла імгла лукашэнскага панаваньня. Але менавіта той геройскі чын нашых сучасьнікаў, дэпутатаў Незалежнасьці, 25 жніўня 1991 году застаецца сьвятлом, што надалей сьвеціць у цемры, якая цяпер, нажаль, штораз гусьцее. І менавіта гэты дзень ёсьць зарукай будучага вызваленьня і поруч з Днём Волі будзе галоўным дзяржаўным сьвятам у новай, вольнай, дэмакратычнай і сапраўды беларускай Бацькаўшчыне.

Затым сп. Аляксандар Хомчанка прачытаў пасланьне ад старшыні БНФ і Партыі КХП-БНФ сп. Зянона Пазьняка, які павіншаваў зь вялікім нацыянальным і будучым дзяржаўным сьвятам.

Сп-ня Тацьцяна Бурак прачытала віншаваньне ад Старшыні Рады БНР спні Івонкі Сурвіла, а затым падзялілася сваімі думкамі пра падзеі 25 жніўня, калі, дзякуючы працы дэпутатаў БНФ, дэмакратычныя сілы дамагліся фактычнага абвешчаньня Незалежнасьці, і дала падрабязны і дэталёвы агляд падзеяў таго часу.

Прысутныя прагледзелі дакумэнтальныя кінакадры, што былі запісаныя ў той лёсавызначальны дзень.

Са сваімі думкамі й развагамі аб гэтай знамянальнай даце й важным юбілеі ў гісторыі Беларусі выступілі: Ганна Сурмач, Міхал Чаропка, Зьміцер Левіт, Павал Менскі й Алесь Антанюк. Сп-ня Людміла Хомчанка, карыстаючыся нагодай важнага нацыянальнага сьвята, заклікала прысутных прыкласьці намаганьні для аднаўленьня беларускай нядзельнай школкі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага.

Афіцыйная частка імпрэзы скончылася сьпяваньнем беларускага гімну “Пагоня” на словы М. Багдановіча. Затым прысутныя мелі народу калегавацца пры каве і пачастунках, прыгатаваных для імпрэзы.

***Віталь ЗАЙКА***

# Сіроты Эўропы

Беларусы – гэта сіроты Эўропы. Сярод беларусаў дзейнічае цэлы шэраг рухаў, якія сватаюць нам у браты і сёстры суседнія народы.

Беларусь-Расея – адзін народ! Адна мова!... і г. д. Аднак, задумаўшыся, нават калі браць адну Расею – то гэта ўжо не адзін народ, то гэта ўжо дзясяткі розных моваў. У маскоўскім мэтро нядаўна зьявіліся надпісы на кіргізкай і узбэцкай... Расея – гэта імпэрыя, у якой расейскім аўтахтонам адведзеная невялічкая намінальна-фармальная пазыцыя, нават не культурная аўтаномія... Аб'яднаньне краіны сярэдняга памеру, такой як Беларусь, з імпэрыяй, такой як Расія, немагчымае. Яно магчымае толькі ў форме паглынаньня. Гэта відавочна і элемэнтарна.

Другі гістарычны блёк для працівагі першаму, вядома, "белапалякі". Рэч Паспалітая абедзьвух народаў (народы не ўказаныя). Агульная гісторыя (бязь месца для беларусаў). Агульныя героі (з тутэйшай прапіскай і з картай паляка). А ў выніку заўсёды Ўсходнія крэсы – задворак польскай цывілізацыі.

Разам назаўжды. То бок беларусы ў фэйбуку масава віншуюць украінцаў з Днём Незалежнасьці, каб тыя праз пару дзён аднолькава актыўна павіншавалі беларусаў у адказ. У беларусаў вялікая патрэба ў такіх віншаваньнях. Ва ўкраінцаў нашмат меншая. Для іх, калі вы ведаеце Ўкраіну не па кніжках, цікаўнасьць да Беларусі не такая вялікая як у нас. Беларусь гэта сусед, недзе там на поўначы. Аднак павестку ва Ўкраіне стварае гарызантальная лінія – усход-захад, падобна як і ў нас. Зрэшты, умоўна падобныя ўкраінцы, аднак, абсалютова іншыя. Іншая гісторыя, іншы мэнталітэт, усё іншае. Калі капнуць глыбей, канешне.

Найбольш экзатычны блёк – "беларусы балты". Байка, прыдуманая сумуючымі гарадзкімі інтэлігентамі, якія не хацелі прыбіцца да трох папярэдніх блёкаў, але, як многія беларусы, адчувалі глыбокую патрэбу ў братэрстве-сястрынстве народаў. Гэтакі балцкі субстрат. Маўляў, тапаніміка, Вялікае Княства, гены, самі разумееце. Аднак веданьне сапраўднай гісторыі пакаквае, што ўсё было роўна наадварот. Беларусы адштурхоўваліся ад балцкасьці, а балты пераймалі беларускае і рабілі зь беларускага сваё. Усё што ня возьмем у летувіскай гісторыі – гэта натуралізаванае беларускае са сьцёртай інфармацыяй пра месца вырабу. "Беларусь – краіна, якую прыдумаў Сталін, каб не дапусьціць існаваньня вялікай балцкай Літвы". Калі хочаце больш пра балцкі субстрат, то не паляннуйцеся, пагаварыце дэтальней зь летувіскім інтэлігентам. Ён усё патлумачыць.

Пра цудоўнае, вясёлае і каляровае мястэчка штэтл я ўжо пісаць ня буду. Пачытайце проста Багушэвіча, Купалу ці любога іншага клясыка і параўнайце прачытанае з намаляваным.

І вось мы засталіся адныя. Але ня варта баяцца. Беларусь самадастатковая і вельмі самабытная краіна, каб выстаяць аднаасобна. Ці вы ў гэта ня верыце і таму гатовыя ўступаць у розныя вуніі і розныя "разам назаўжды"? Любіць можна каго заўгодна, але ня варта ў гэтую любоў цягнуць за сабою цэлую краіну. Як кажуць псыхолягі – сьпярша палюбіце самога сябе.

**Віталь ВОРАНАЎ**

# Аб сьвятах

17-ы верасень 1939 году беларусам трэба ацэньваць гістарычна станоўча ў зьмесьце беларускага нацыянальнага існаваньня. Але сьвятам "народнага адзінства" гэтая дата не зьяўляецца, бо яна ёсьць вынік дзеяньняў і акупацыйнай агрэсіі іншых дзяржаваў, найперш Савецкай Расеі. 17-га верасьня 1939-га года заходняя беларуская тэрыторыя была вернутая, але адна акупацыя зьмянілася іншай акупацыяй.

Гісторыя даты такая. У 1921 годзе Савецкая Расея ў выніку Рыжскай змовы з прычыны няўдалых ваенных дзеяньняў падзяліла акупаваную тэрыторыю Беларусі паміж Расеяй і Польшчай.

У 1939 годзе ў выніку Пакту Молатава-Рыбентропа Савецкая Расея ў змове з Гітлерам і з выкарыстаньнем войска забрала ў склад СССР частку падзеленай у 1921 годзе тэрыторыі Беларусі.

Палітыка антыбеларускай польскай "санацыі" зьмянілася тут палітыкай расейскага камуна-энкавэдзісцкага генацыду. Заходняя Беларусь панесла адчувальныя страты ў людзях, у маёмвсьці, у культуры і ў сацыяльных дачыненьнях.

Адначасна савецкі імпэрскі акт збройнага забору ранейшых акупаваных тэрыторыяў аб'ектыўна азначаў аднаўленьне тэрытарыяльнасьці Беларусі чужымі рукамі, фармальную нацыянальную сатысфакцыю для беларусаў і рэальна – павелічэньне ўдзельнай вагі краіны ў Савецкім Саюзе.

Гэта паспрыяла беларускаму нацыянальнаму Адраджэньню і барацьбе за Незалежнасьць Беларусі.

Сапраўднымі нацыянальнымі сьвятамі Беларускага Народу ёсьць Дзень Волі 25-га сакавіка 1918 году, Дзень Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь 25-га жніўня 1991 году, Дзень Беларускай Вайсковай Славы 8-га верасьня 1514 году, Дзень Памяці Продкаў – Дзяды 2-га лістапада, Слуцкі Збройны Чын 26-га лістапада 1920 году. А таксама вялікія Хрысьціянскія сьвяты – Нараджэньне (Каляды) і Вялікдзень (Зьмёртвыхустаньне) Хрыстова.

Жыве Беларусь!

*17 верасень 2021 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

---

*Аб імпрэзах,ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня ***"Пагоня"***, калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***"Весткі й Паведамленьні"***. *(Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"** ***Viktar Yedzinovich.***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***